# Голас Радзімы

№ 12 (1998)
19 сакавіка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






**Іх 64 — тых, хто вырашыў звязаць свой лёс з н[illegible]. Ужо сёлета ў мінскім прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 32 адбудзецца першы выпуск бортправадніц (так у нас называюць сцюардэс). Старанна вывучаюць дзяўчаты з Беларусі і рэспублік Прыбалтыкі канструкцыю самалётаў, спецабсталяванне, удасканальваюць веды ў замежных мовах. Тэарэтычны курс падмацоўваецца заняткамі ў вучэбна-трэніровачным атрадзе Беларускага ўп[illegible]лення грамадзянскай авіяцыі. Пад кіраўніцтвам вопытных інструктараў роб[illegible]удучыя сцюардэсы першыя крокі ў салонах самалётаў, каб праз некалькі месяцаў ужо ўвайсці ў іх паўнапраўнымі гаспадынямі.**

**НА ЗДЫМКАХ: на ўроку англійскай мовы ў лінгафонным класе вучылішча; Ілона ДРОЗД прыйшла ў грамадзянскую авіяцыю па слядах свайго бацькі, заслужанага лётчыка Аляксандра Дразда; у інтэрнаце пасля заняткаў. Вольга АРТАМОНАВА ў вольную часіну займаецца вязаннем; будучыя сцюардэсы.**

**Фота У. ШУБЫ.**





*ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН*

# ПРАЗ ЛУНІНЕЦ ІДУЦЬ ПАЯЗДЫ...

**XXVII з'езд КПСС, пасля якога мінуў роўна год, прапанаваў шырокамаштабную праграму эканамічнага і сацыяльнага развіцця савецкага грамадства на бліжэйшыя пятнаццаць гадоў.**

Лунінец — невялікі горад на поўдні нашай рэспублікі, цэнтр аднаго з раёнаў Брэстчыны. У ім некалькі дзесяткаў тысяч жыхароў. Такіх гарадоў у краіне і па колькасці насельніцтва, і па тым, чым яно займаецца, мноства.

І ўсё ж Лунінец для прыкладу выбраны мной не выпадкова. Думаю, не для аднаго з нашых замежных чытачоў гэта будзе расказ пра яго далёкую радзіму або радзіму бацькоў, дзядоў. Шмат людзей выехала адсюль і з навакольных вёсак шукаць шчасця ў розныя краіны свету яшчэ пры рускім царызме і ў часы панавання памешчыцкай Польшчы. Толькі з 1929 па 1936 год — звыш трох тысяч чалавек.

Лунінец знаходзіцца ў цэнтры беларускага Палесся. З іншымі населенымі пунктамі нашай рэспублікі яго звязваюць аўтамабільныя і чыгуначныя шляхі. Чыгунка з'явілася тут больш за сто гадоў назад. Па ёй адсюль можна лёгка трапіць у Баранавічы і Мінск, Мазыр і Гомель, Пінск і Брэст. Паўднёвая стужка злучыла Лунінец з гарадамі суседняй Украіны.

Праз Лунінецкі чыгуначны вузел штодзень ідзе густы пасажырскі паток. Высокі паказчык вузла і па абароту народнагаспадарчых грузаў. Да апошняга часу тут адчуваўся вялікі дэфіцыт рабочых рук.

І вось эксперымент, які праводзіўся ў рамках усёй Беларускай чыгункі. За кошт арганізацыйных мерапрыемстваў па сумяшчэнню прафесій і абавязкаў, хуткага ўкаранення тэхнікі ў працэсы кіравання, скарацілі на вузле звыш чатырохсот работнікаў, якіх адразу ж працаўладкавалі ў іншыя арганізацыі і прадпрыемствы горада. Такім чынам, да выканання праграмы, прынятай на XXVII з'ездзе, Лунінец прыступіў, поўнасцю вырашыўшы ў сябе адно з вострых на сённяшні дзень для Савецкай краіны пытанняў — праблему дэфіцыту рабочых рук. Адначасова вырашаліся і сацыяльныя пытанні: каля васьмі тысяч чалавек, чыгуначнікаў і членаў іх сем'яў, палепшылі свае матэрыяльнае становішча за кошт павышэння заработнай платы.

Лунінецкі чыгуначны вузел будзе расці і ў далейшым, што дазволіць больш шырокі манеўр сучасных цяжкавагавых грузавых саставаў. Намечанае пашырэнне — адзін з перспектыўных момантаў развіцця вузла. Другі момант — будаўніцтва новага пуцеправода, якое пачалося. Гэта дазволіць вырашыць праблему сувязі паміж часткамі горада, размешчанага па абодва бакі вузла.

І ўсё ж найпершую ўвагу чыгуначнікі ўдзяляюць сёння ўкараненням дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу: аўтаматызацыі кіравання, механізацыі пагрузачна-разгрузачных работ і г. д.

Завод электрарухавікоў — прадпрыемства, якое мае у горадзе другое месца пасля чыгуначнага вузла па колькасці працуючых. Менавіта з яго будаўніцтвам і пускам у 1975 годзе звязана імклівае развіццё Лунінца.

Завод — гігант электраіндустрыі, вытворчыя магутнасці якога разлічаны на гадавы выпуск 600 тысяч электрарухавікоў для сельскай гаспадаркі, прамысловасці, марскога транспарту. Першы пасляз'ездаўскі год быў для яго вельмі складаным. Перад прадпрыемствам адначасова стаялі дзве маштабныя задачы: пераход на новую прадукцыю і тэхнічнае пераўзбраенне.

Першая азначала асваенне вытворчасці такой прадукцыі, якая адпавядала б лепшым сусветным узорам. Яна была паспяхова вырашана. Сацыялістычныя краіны — члены Савета Эканамічнай Узаемадапамогі — рэалізуючы праграму супрацоўніцтва, стварылі канкурэнтаздольную сістэму электрарухавікоў AI, якая была з мэтай узаемазамяняльнасці пастаўлена на сумесную вытворчасць. У Савецкім Саюзе сярод іншых прадпрыемстваў іх выпускам заняўся і лунінецкі завод. Ужо ў снежні была адгружана заказчыкам першая тысяча новых электрарухавікоў, якія сёлета сталі асноўнай прадукцыяй прадпрыемства.

Пытанні ж тэхнічнага пераўзбраення не атрымалі летась належнага вырашэння. Марудна ўкараняліся ў вытворчасць станкі з лічбавым праграмным кіраваннем і робататэхнічныя комплексы. Зараз становішча паляпшаецца. Выклікае захапленне энтузіязм, з якім мясцовая моладзь — недалёкія нашчадкі тых палешукоў, для каго ўсяго паўстагоддзя назад чалавечага розуму, — асвойвае найскладанейшае тэхнічнае абсталяванне.

Асноўнымі звеннямі тэрытарыяльна-вытворчага комплексу Лунінца з'яўляюцца таксама завод па рамонту меліярацыйнай тэхнікі, лесанарыхтоўчае аб'яднанне, хлебазавод, малаказавод, некалькі будаўнічых арганізацый. Рэканструкцыя тэхнічнай базы, удасканаленне арганізацыі працы і працэсаў кіравання, рацыянальнае выкарыстанне матэрыяльных рэсурсаў — мерапрыемствы, якія дазволілі кожнаму з іх намнога палепшыць у 1986 годзе паказчыкі эканамічнай дзейнасці ў параўнанні з папярэднім годам. Як вынік, агульная прадукцыйнасць працы ў горадзе вырасла супраць планавай больш чым у два разы.

XXVII з'езд КПСС вельмі своечасова, па-новаму падышоў і да пытанняў сацыяльнага развіцця краіны. У гэтай сферы ў апошнія гады сталі ўзнікаць сур'ёзныя праблемы. Асабліва ў сацыяльным будаўніцтве. У Лунінцы, напрыклад, не хапала месцаў у дзіцячых садах і яслях, перапоўненымі аказаліся сярэднія школы, востра адчувалася недахоп жылля і культурных устаноў. Гэта стала вынікам перакосу ў эканамічнай і сацыяльнай палітыцы Савецкай дзяржавы, які і заклікана лік-відаваць новая праграма. Яе першая пяцігадовая частка і выступае як пяцігодка вялікіх сацыяльных пераўтварэнняў.

Вырашэнне праблем у гэтай сферы ўскладзена перш за ўсё на органы Савецкай улады на месцах — Саветы народных дэпутатаў. Бо менавіта за імі Канстытуцыяй СССР замацаваны галоўны абавязак — клопат пра чалавека, пра яго быт і адпачынак, здароўе і адукацыю. І трэба сказаць, дзейнасць Саветаў у краіне паўсюдна прыкметна ажывілася з мінулага года.

Лунінецкі гарсавет, у які ўваходзіць 75 дэпутатаў, у кароткі тэрмін распрацаваў уласную праграму дзеянняў па вырашэнню мясцовых праблем. І вось ужо набліжаецца да завяршэння распачатае летась будаўніцтва новага дзіцячага сада на 320 месцаў, рыхтуюцца катлаваны пад фундаменты двух жылых дамоў на 130 кватэр.

Пра новую сацыяльную палітыку ў горадзе яскрава сведчаць і факты пераразмеркавання сродкаў у гэтую сферу з вытворчай. Напрыклад, замест запланаванага раней новага цэха для завода электрарухавікоў вырашана пабудаваць для работнікаў прадпрыемства Дом культуры.

Увогуле, шмат працы чакае наперадзе лунінецкіх будаўнікоў. Дом Саветаў, сярэдняя школа, пажарнае дэпо, станцыя тэхнічнага абслугоўвання легкавых аўтамабіляў і, вядома, жылыя масівы — бліжэйшыя новабудоўлі раённага цэнтра. Частка іх вырасце на урочышчах Залессе і Баханова, Пнішча і Галавішча, яшчэ нядаўна схаваных у балотах, але куды ўжо сёння прыйшлі гарадскія ўскраіны.

**Міхась СТЭЛЬМАК.**

**АМЕРЫКАНСКАЯ ФІРМА АСТАЛЁЎВАЕЦЦА Ў РЭСПУБЛІЦЫ**

# НА ШЛЯХАХ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Скорасная траса ўзамен прасёлка? Так, сцвярджаюць спецыялісты навукова-вытворчага аб'яднання «Дарбудтэхніка», якія і самі яшчэ нядаўна нават у марах не звязвалі глыбінку з такога класа дарогамі. Эканамічныя разлікі і практычная эксплуатацыя першых участкаў новага пакрыцця безагаворачна пацвярджаюць: агракомплексу неабходна і выгадна надзейная дарога. Такая сетка мясцовых камунікацый ствараецца ў абласцях ужо другі год. Сярод працуючай тэхнікі ёсць і робаты-бетонаўкладчыкі амерыканскай фірмы «Гамака» са штата Айова.

Дарожнікі рэспублікі маюць намер штогод будаваць для вёскі 1 200 кіламетраў капітальных дарог.

Напярэдадні сезона ў «Дарбудтэхніцы» адбыліся першыя заняткі школы перадавога вопыту. Асобая роля на гэтым імправізаваным семінары выпала выканаўчаму дырэктару фірмы па краінах Еўропы, Блізкага Усходу і Афрыкі Дану Вілісу. Ён грунтоўна адказаў на шматлікія пытанні беларускіх калег, звязаныя з найбольш эфектыўным выкарыстаннем тэхнічных магчымасцей дарожных робатаў, апаратыўнай ліквідацыяй дэфектаў, выяўленых у час эксплуатацыі. Вельмі цікавасць выклікаў яго расказ з дэманстрацыяй слайдаў аб перспектыўных распрацоўках фірмы.

Дан Віліс падзяліўся сваімі ўражаннямі і вынікамі паездкі ў Мінск.

— Нашы машыны будуюць дарогі амаль у дзевяноста краінах свету, але, праўда, найбольшы інтарэс фірмы, асабліва ў рабочых, выклікаў пачатак дзелавых кантактаў з савецкімі калегамі. Зразумела, мы хочам ведаць, як у вас зарэкамендавалі сябе бетонаўкладчыкі, таму што «Гамака» даражыць прафесійнай рэпутацыяй. Наш спецыяліст, які прывязе неабходныя запчасткі, разам з экіпажамі на месцах падрыхтуе ўсе шэсць укладчыкаў да сезона. Словам, свой план пракладкі сельскіх бетонных дарог будаўнікі вашай рэспублікі будуць выконваць з амерыканскімі партнёрамі. Я так і паабяцаў на семінары.

Цяпер дзелавы свет пільна вывучае новую знешнеэканамічную палітыку вашай краіны. Па-мойму, яна адкрывае цудоўныя магчымасці для паўнакроўнага ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва і кааперацыі — своеасаблівай вуліцы з двухбаковым рухам. Вось свежы прыклад. Спецыялісты «Дарбудтэхнікі» распрацавалі і атрымалі выдатны па якасці герметык для запаўнення швоў дарожных пакрыццяў. Фірмы Англіі, Францыі і ЗША пераканаліся на сваіх аб'ектах у яго высокіх эксплуатацыйных уласцівасцях, у надзейнасці абсталявання для прымянення такога дэфіцытнага матэрыялу. Цяпер мы пазнаёміліся з яго вытворчасцю на месцы. Спадзяюся, кіраўніцтва фірмы «Гамака» абмяркуе магчымасць кааперацыі з беларускімі арганізацыямі для сумеснага выпуску герметыку і рэалізацыі яго ў названых краінах.

Напрошваецца таксама ідэя будаўніцтва агульнага прадпрыемства па вытворчасці бетонаўкладчыкаў і змяшальнікаў на базе амерыканскай тэхналогіі.

І апошняя, вельмі прыемная для нас навіна,— падкрэсліў Дан Віліс.— Дасягнута дамоўленасць з аргкамітэтам Міжнароднай выстаўкі «Камунальная і бытавая тэхніка-87» аб удзеле ў экспазіцыі фірмы «Гамака». Так што ў красавіку спадзяюся на новую сустрэчу з Мінскам, з маімі беларускімі калегамі.

**В. СІВАКОЎ.**



**У горадзе беларускіх хімікаў Наваполацку аб'яднанне «Наваполацкнафтааргсінтэз» у ліку перадавых. Тут хуткі рост прадукцыйнасці працы за кошт укаранення дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу, высокая дысцыпліна паставак, гаспадарчых кантактаў з сумежнікамі.**
**НА ЗДЫМКУ: устаноўка па перапрацоўцы нафты.**
**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# СВЯЦІЛІ ЯМУ НЕЗНАЁМЫЯ ЗОРКІ

Фёдар Кабот... Яго ведаюць у Брэсце як чалавека сапраўды гераічнага лёсу.

У трыццатыя гады беларускі камсамол шэфстваваў над Балтыйскім флотам. З камсамольскай пуцёўкай у перадваенныя гады прыйшоў у ваенкамат Фёдар Кабот. Так ён стаў мараком-балтыйцам, мараком-падводнікам.

У гады вайны ён на Паўночным флоце. «Памочнік штурмана па навігацыі» — так называлася яго суднавая роля на падводнай лодцы. Наогул жа служыў Фёдар Кабот на некалькіх падводных лодках. Іх экіпажы патапілі многа варожых суднаў. Ваяваў ён і ў экіпажы легендарнай субмарыны «Яраслаўскі камсамолец».

У самым пачатку пяцідзесятых гадоў Фёдар Кабот — член навуковай экспедыцыі на адной з першых пасляваенных дрэйфуючых палярных станцый. Цэлы год у Паўночным Ледавітым акіяне. Невялікі перапынак — і яшчэ адна экспедыцыя на льдзіне...

Здавалася б, хопіць вандраванняў для аднаго чалавека — з лішкам хопіць! Але праз год з навуковай экспедыцыяй ён ідзе ў Антарктыду, да супраціўлеглага краю зямлі.

Людзі старэйшага пакалення помняць аб унікальным выпадку, які здарыўся ў тыя гады на станцыі Маладзёжная... Уся прэса свету, радыёстанцыі ўсіх дзяржаў расказвалі аб ім.

На Маладзёжнай у аднаго з зімоўшчыкаў здарыўся востры прыступ апендыцыта. Неабходна была тэрміновая аперацыя. Урач на станцыі быў... Але менавіта яго, Сяргея Рагозава, маладога выпускніка Ленінградскага медінстытута, і належала апераваць, прытым тэрмінова. Сяргей прыняў рашэнне: тэрмінова навучыць элементарным хірургічным навыкам таварышаў. У ліку тых, хто ратаваў мужна ўрача, выконваючы незвычайную ролю хірурга, быў і Фёдар Кабот. Аперацыя прайшла паспяхова...

**А. ПАЛОНСКІ.**

# ВЫЙШАЎ З НАРОДА, НАЛЕЖЫЦЬ НАРОДУ

*ДА 90-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Васіля ШАРАНГОВІЧА*

СЯРОД шматлікіх лясоў-пералескаў і пакацістых узгоркаў Віленскай губерні схавалася вёсачка Качаны. Самы блізкі да яе больш буйны населены пункт — чыгуначная станцыя Маладзечна. Яна давала работу многім вясковым беднякам, якія гібелі ў галечы.

Аднойчы прыйшоў сюды і трынаццацігадовы хлопец з Качаноў Васіль Шаранговіч. Доўгі, як жардзіна, чыгуначны служачы, пабліскваючы пенснэ, строга распытаў, хто яго бацькі, якога веравызнання, ці мае знаёмых у Маладзечне, прыдзірліва праверыў уменне пісаць і лічыць. Узялі сельскага хлопца чорнарабочым.

Так пачалася працоўная біяграфія героя грамадзянскай вайны, вядомага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі Васіля Шаранговіча.

Ён нарадзіўся 4 сакавіка 1897 года ў беднай сялянскай сям'і. Бачачы яе беспрасветную галечу, нехта з суседзяў і параіў бацьку адправіць Васіля ў горад. У Маладзечне новае жыццё захапіла цікаўнага, назіральнага юнака. Рабочыя чыгуначных майстэрань навучылі яго слясарнай справе. Праз некаторы час Васіль паспяхова асвоіў прафесію паравознага машыніста.

Напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Маладзечне, як і ў Мінску, Смаргоні, Слуцку, іншых беларускіх гарадах, адчуваўся ўплыў рабочых, іх палітычнай арганізацыі — партыі бальшавікоў на рост свядомасці шырокіх народных мас. Касцяком барацьбы супраць эксплуататарскага ладу ў Маладзечне былі рабочыя-чыгуначнікі. На сваіх мітынгах яны прымалі рэзалюцыі, адмаўляючыся падтрымаць Часовы ўрад.

1917 год для Васіля Шаранговіча, як і для соцень тысяч іншых выхадцаў з народа, стаў пераломным. Пазней ён расказваў, як мясцовая бальшавіцкая арганізацыя прапанавала яму ўступіць у рады РСДРП(б). З уступленнем у партыю яго жыццё прынцыпова змянілася. Ён выконваў шматлікія і складаныя даручэнні: праводзіў сходы, збіраў грошы на выпуск першай у Беларусі бальшавіцкай газеты «Звязда», пісаў лістоўкі, што выкрывалі антынародны характар ваеннай палітыкі Часовага буржуазнага ўрада, выступаў перад салдатамі. У той час В. Шаранговіч упарта займаўся самаадукацыяй, вучыўся. У 20 год ён становіцца вядомым у горадзе. Пацвярджэннем гэтаму з'явілася выбранне Шаранговіча восенню 1917 года сакратаром Маладзечанскай арганізацыі РСДРП(б).

Жыццё і дзейнасць Васіля Фаміча ўмоўна можна падзяліць на тры этапы. Першы — перыяд станаўлення і росту, які канчаецца свядомым успрыняццем ідэй Кастрычніка. Другі — гады падпольнай работы на акупіраванай ворагам тэрыторыі. Трэці — удзел у будаўніцтве новага жыцця, народжанага рэвалюцыяй. Яго вызначала шчырая вера ў справу рабочых і сялян, гатоўнасць да самаадданай барацьбы.

Ачышчальнай бурай прайшоў Кастрычнік па беларускай зямлі. Усяго за сто дзён трыумфальнага шэсця Савецкай улады для простага народа было зроблена больш, чым за многія дзесяткі год пры ранейшым дзяржаўным ладзе. Сотні рабочых сем'яў перасяліліся ў новыя кватэры. Самыя бедныя сяляне атрымалі дадаткова больш за 1,6 мільёна дзесяцін зямлі.

Ва ўсе гэтыя справы В. Шаранговіч уносіў свой пасільны ўклад. У пачатку снежня 1917 года ён сустрэў дэлегацыю Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Заходняга фронта, якая накіроўвалася ў вёску Солы для заключэння перамір'я з германскімі войскамі. З гутаркі з яе кіраўніком С. Шчукіным ён даведаўся больш падрабязна пра ленінскі дэкрэт аб міры, пра задачы бальшавікоў па яго ажыццяўленню. Перамір'е было заключана.

Але кайзераўская Германія не рассталася з надзеяй задушыць Савецкую ўладу. У студзені 1918 года, скарыстаўшы зручны для сябе момант, нямецкія войскі перайшлі граніцу мала[illegible] рабоча-сялянскай дзярж[illegible] Разам з таварышамі В. Шаранговіч застаўся на падпольнай рабоце. Аднак яго дзейнасць у нелегальных умовах на гэты раз працягвалася нядоўга. Пры выкананні а[illegible] з заданняў ён быў а[illegible]таваны, але ўцёк, перай[illegible] лінію фронта і ўліўся ў рады Чырвонай Арміі.

...Глыбокая восень 1919 года. На ўзлесак выходзіць група чырвонаармейцаў. Сярод іх і Васіль Шаранговіч з дакументамі на імя Лютовіча. Абмен моцнымі поціскамі рук, і Шаранговіч ідзе далей адзін. Наперад яго вядзе новае і складанае заданне: прайсці на захопленую буржуазнай Польшчай тэрыторыю Беларусі, прыняць удзел у кансалідацыі партызанскіх сіл, умацаванні кіраўніцтва.

Гэта былі нялёгкія для беларускага народа дні. На ўсім шляху Шаранговіч сустракаў сляды жорсткага акупацыйнага рэжыму: магілы расстраляных патрыётаў, спаленыя дамы, жорсткія загады. З вялікімі цяжкасцямі ён дабраўся да Мінска, а потым да адной з бліжэйшых вёсак.

У гісторыі барацьбы таго перыяду памятнае 28 студзеня 1920 года. У той дзень у вёсцы Гатава адбыўся першы нелегальны з'езд партызан Мінскага павета. Кіраваў ім ад пачатку да канца В. Шаранговіч.

Прысутныя ўбачылі русавалосага, шыракаплечага чалавека, падпольшчыка, добра знаёмага з канспіратыўнай работай. В. Шаранговіча слухалі ўважліва. Вынікі з'езда былі прыкметнымі. Актывізавалася баявая дзейнасць народных мсціўцаў. Напрыклад, у сакавіку 1920 года партызаны ўзарвалі варожы поезд, які падыходзіў да Бабруйска. Са строю выйшла больш за 40 вагонаў.

Васіль Шаранговіч паспяхова кіраваў і другім з'ездам мінскіх партызан. Але за ім ужо сачылі. Неўзабаве акупацыйным уладам удалося арыштаваць падпольшчыка. Прыгавор быў кароткі і жорсткі: 20 год турмы. Яго адправілі ў Познань. У 1921 годзе Савецкаму ўраду шляхам перагавораў удалося вырваць Шаранговіча з засценкаў. Вяртанне на Радзіму супала з узнагароджаннем яго ордэнам Чырвонага Сцяга і ганаровай зброяй.

На жаль, архіўныя матэрыялы, публікацыі гісторыкаў скупа адлюстроўваюць многія важныя бакі жыцця і дзейнасці В. Шаранговіча. Не ўсё стала здабыткам архіваў, і не ўсё захавалася. Даводзіцца задавальняцца разрозненымі весткамі. Але і з іх відаць, што гэта быў чалавек, адданы рэвалюцыі.

Арганізатарскія здольнасці Васіля Фаміча ярка праявіліся і ў час яго работы на пасадзе намесніка наркома юстыцыі БССР, якую ён займаў з 1921 па 1923 год.



Вылучэнне ў юрыдычныя ўстановы прадстаўнікоў рабочага класа і працоўнага сялянства ён лічыў важнейшай умовай дэмакратызацыі грамадскага жыцця. У рэспубліцы ў той перыяд былі ажыццёўлены важныя меры па ўмацаванню сацыялістычнай законнасці. Да Шаранговіча ішлі простыя людзі з усіх канцоў Савецкай Беларусі. Для кожнага ў яго знаходзіўся час і добрая парада.

У 20-я гады В. Шаранговіч займаўся пытаннямі прафсаюзнага руху. Захаваліся яго выступленні, з якіх відаць, што ён многае зрабіў для ўмацавання прафсаюзаў рэспублікі.

Затым В. Шаранговіч многія гады працаваў за межамі Беларусі — у Іркуцку, Казахстане, Харкаве. І тут яму былі даверaны высокія партыйныя і прафсаюзныя пасады.

Але заўсёды радасным было для яго вяртанне ў Беларусь. З кожным годам усё больш значнымі станавіліся яе дасягненні ў эканоміцы і культуры. У той даваенны час на карце рэспублікі з'явіліся такія буйныя прамысловыя прадпрыемствы, як Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, Магілёўская фабрыка штучнага валакна, Гомельскі завод па вытворчасці сельгасінвентару і іншыя. Сфарміраваліся нацыянальны рабочы клас, народная інтэлігенцыя.

Імя В. Шаранговіча неаддзельнае ад поспехаў сацыялістычнага будаўніцтва. Аб гэтым сведчаць і займаемыя ім у рэспубліцы ў апошнія гады высокія партыйныя пасады: 1930 год — другі сакратар, 1937 год — першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі.

Васіль Шаранговіч належыць нашай гісторыі, нашаму народу. І народ увекавечыў яго імя ў назвах вуліц у сталіцы рэспублікі Мінску і ў буйным сёння прамысловым цэнтры Маладзечне, яно занесена ў энцыклапедычныя выданні.

**Яўген БАРАНОЎСКІ.**

## Што? * Як? * Чаму?

**Паўтара месяца назад у нашай краіне на ўсенароднае абмеркаванне быў вынесены праект Закона СССР аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні). Сутнасць гэтага дакумента заключаецца ў тым, што ён увязвае ў адно цэлае інтарэсы дзяржавы, прадпрыемства і работніка. І хаця Закон знаходзіцца пакуль яшчэ ў стадыі праекта, тым не менш многія яго палажэнні ўжо актыўна ўкараняюцца ў практыку. Перш за ўсё гэта тычыцца вытворчай дэмакратыі. Праект Закона прапанаваў новую форму ўдзелу рабочых у кіраванні прадпрыемствам —**

# САВЕТ ПРАЦОЎНАГА КАЛЕКТЫВУ

Пра неабходнасць стварэння такіх органаў самакіравання ішла гаворка на XXVII з'ездзе КПСС. З'езд звярнуў увагу на тое, што некаторыя палажэнні прынятага раней Закона аб працоўных калектывах сёння патрабуюць удакладнення. У прыватнасці, жыццё паказала, што ў перыяд паміж агульнымі сходамі, на якіх працоўныя калектывы абмяркоўваюць і вырашаюць найбольш важныя праблемы, у іх практычна няма прадстаўнічага органа самакіравання. Дэлегаты з'езда падтрымалі ідэю стварэння на прадпрыемствах саветаў працоўных калектываў, якія былі б паўнамоцнымі паміж сходамі ці канферэнцыямі (на буйных аб'яднаннях) вырашаць усе бягучыя пытанні.

На Мінскім аўтамабільным заводзе савет працоўнага калектыву быў створаны ў красавіку 1986 года, праз месяц пасля з'езда партыі. У склад яго выбраны 41 чалавек. Гэта рабочыя, брыгадзіры, майстры, інжынеры, прадстаўнікі адміністрацыі і грамадскіх арганізацый. Словам, сацыяльная структура савета адлюстроўвае сацыяльную структуру калектыву. Старшынёй савета выбралі генеральнага дырэктара прадпрыемства М. Лаўрыновіча.

Зрэшты, зусім не абавязкова, каб на чале савета стаяў менавіта дырэктар. Старшынёй можа быць і рабочы — гэта ўжо як вырашаць члены савета. На Мінскім аўтазаводзе зыходзілі з таго, што савет павінен узначаліць чалавек, які мае найбольшую кампетэнцыю як у вытворчых, так і ў сацыяльных пытаннях.

Якія ж функцыі надаюцца СПК (так скарочана сталі называ[illegible] саветы працоўных калектываў)? Якія правы мае гэты о[illegible] У адпаведным артыкуле праекта Закона аб дзяржаўны[illegible] прадпрыемстве запісана, што савет працоўнага калектыву ажыццяўляе кантроль за выкананнем рашэнняў агульных сходаў (канферэнцый) працоўнага калектыву, рэалізацыяй крытычных заўваг і прапаноў персаналу, інфармуе калектыў аб іх выкананні; заслухоўвае адміністрацыю аб ходзе выкана[illegible] планаў і дагаворных абавязацельстваў, выніках вытворча[illegible]адарчай дзейнасці, намячае меры, якія садзейнічаюць бо[illegible] эфектыўнай рабоце прадпрыемства. На сваіх пасяджэннях члены СПК разглядаюць таксама пытанні аплаты працы, удасканалення кіравання і адміністрацыйнай структуры прадпрыемства. Савет вырашае, як выкарыстаць фонды развіцця вытворчасці, навукі і тэхнікі, матэрыяльнага заахвочвання, сацыяльнага развіцця. У полі зроку СПК знаходзяцца і пытанні падрыхтоўкі, павышэння кваліфікацыі і расстаноўкі кадраў, а таксама многія іншыя праблемы.

Рашэнні савета, прынятыя ў межах яго паўнамоцтваў і ў адпаведнасці з заканадаўствам, абавязковыя для ўсіх членаў калектыву. Калі ж, скажам, адміністрацыя прадпрыемства ў нечым нязгодная з саветам, пытанне вырашаецца на агульным сходзе ці канферэнцыі працоўнага калектыву.

Наколькі дзейснай будзе работа СПК, залежыць у першую чаргу ад працоўнага калектыву, бо менавіта ён выбірае савет. Каму давераць рабочыя прадстаўляць свае інтарэсы, залежыць толькі ад іх. Ніякіх указанняў «зверху» тут быць не можа. Калі ж нейкі кіраўнік усё ж наважыцца гэта зрабіць, калектыў даволі хутка можа, што называецца, паставіць яго на месца.

Усё гэта дапамагае людзям адчуць сябе гаспадарамі на прадпрыемстве, эфектыўна ўплываць на яго работу. Саветы працоўных калектываў, састаў якіх праз 2—3 гады абнаўляецца не менш чым на трэць, даюць магчымасць далучыць да ўдзелу ў кіраванні вытворчасцю вялікую колькасць рабочых.

Словам, у Савецкім Саюзе ідзе працэс паглыблення дэмакратыі, які сёння набыў ужо незваротны характар. І гэта нам трэба не для таго, каб камусьці спадабацца, не для гульні ў дэмакратыю. Дэмакратыя, як сказаў савецкі лідэр Міхаіл Гарбачоў, нам патрэбна для перабудовы многага ў нашым жыцці, для таго, каб даць прастору творчасці людзей, новым ідэям, ініцыятывам.



**Напрадвесні.**

**Фота Г. БАБКІНА.**

# СВЯТА НА СТАРАЖЫТНАЙ ЗЯМЛІ

*МСЦІСЛАВУ—850 год*

Услед за гарадамі-суседзямі Крычавам і Слаўгарадам адзначыў свой 850-гадовы юбілей і Мсціслаў, бо, як паказалі апошнія вынікі даследаванняў навукоўцаў, ён упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах пад 1136 годам, а не пад 1156, як лічылася раней. Святкаваць мсціслаўцы вырашылі зімой, падвёўшы вынікі набыткам юбілейнага года. Добра папрацаваўшы (а раён па многіх паказчыках выйшаў на адно з першых месцаў у Магілёўскай вобласці), можна і добра адпачыць.

24 студзеня адбылося ўрачыстае пасяджэнне ў раённым Доме культуры, дзе сабраліся прадстаўнікі працоўных калектываў усяго раёна. Шмат было і гасцей.

Напачатку выступіў доктар гістарычных навук Л. Аляксееў, які з 1959 года па сённяшні дзень вывучае самае старажытнае месца горада — былое замчышча. Свой расказ вучоны суправаджаў каляровымі слайдамі. Маляўніча, доказна, абапіраючыся на багаты археалагічны матэрыял, паказаў, што жыццё на тутэйшай зямлі зарадзілася менавіта ў першай палове XII стагоддзя. Потым выступалі рабочыя, ветэраны, моладзь, шматлікія госці, вучоныя.

З цёплым пранікнёным словам звярнуўся да прысутных ураджэнец Мсціслава, вядомы беларускі археолаг дацэнт Гродзенскага універсітэта Міхась Ткачоў. Ад імя Саюза пісьменнікаў БССР перадаў найлепшыя пажаданні мсціслаўцам Эрнест Ялугін—аўтар гістарычных раманаў, прысвечаных Пятру Мсціслаўцу і падзеям, што адбываліся ў горадзе ў бурлівым XVI стагоддзі.

На другім паверсе Дома культуры працавала выстаўка, дзе можна было ўбачыць дасягненні сённяшняй Мсціслаўшчыны: тут і важкія жытнёвыя снапы, і пучкі лёнудаўгунцу, і вялізныя буракі, шматлікія вырабы гарадскіх прадпрыемстваў, карціны мастакоў-аматараў, малюнкі і самаробкі школьнікаў і навучэнцаў прафесійных вучылішчаў. Цікава было зазірнуць у этнаграфічны куток музея, пабачыць арыгінальныя творы народнага мастацтва.

Мсціслаў па праву называюць беларускім Суздалем. Тут захаваліся багатыя помнікі старажытнасці. З Мсціслаўшчыны выйшла многа выдатных людзей: паплечнік першадрукара Івана Фёдарава Пётр Мсціславец, адзін з заснавальнікаў беларускай літаратуры М. Гарэцкі, аўтар першага слоўніка беларускай мовы І. Насовіч, доктар медыцынскіх навук В. Астапенка і многія іншыя. Шасцёра выхадцаў з Мсціслаўшчыны ў гады Вялікай Айчыннай вайны сталі Героямі Савецкага Саюза. Іх ратную славу прадоўжылі працаўнікі восем Герояў Сацыялістычнай Працы.

У нядзелю, 25 студзеня, адбылося ўрачыстае шэсце па галоўных вуліцах і плошчы горада. Перад вачамі прысутных прайшлі асноўныя этапы гісторыі горада: яго заснаванне; удзел мсціслаўцаў у Грунвальдс[illegible] бітве; гістарычныя сцэн[illegible] войнаў XVII—XVIII стагоддзяў; друкарскі варштат Пятра Мсціслаўца—паплечніка Івана Фёдарава; знакамітыя кафлі Сцяпана Палубеса, [illegible]чые творы і зараз аздабл[illegible]ь маскоўскія храмы; п[illegible]ога Кастрычніка і грамадзянская вайна на Мсціслаўшчыне; мсціслаўцы ў Вялікай Айчыннай вайне; сучаснае жыццё.

**Алег ТРУСАЎ.**



# СПОРТ

У цэнтры ўвагі аматараў спорту ў апошні час быў першы чэмпіянат свету па лёгкай атлетыцы ў закрытым памяшканні, які прайшоў у Індыянаполісе (ЗША). Найбольшага поспеху тут дамагліся савецкія спартсмены. Яны заваявалі 6 залатых, 5 сярэбраных і 4 бронзавыя медалі. Сярод прызёраў і беларуская лёгкаатлетка Алена Бялеўская.

Вось ужо колькі разоў «адбіралі» ў Леаніда Тараненкі сусветныя рэкорды па цяжкай атлетыцы. І кожны раз беларускі штангіст вяртаў іх. Так здарылася і на міжнародным турніры на «Кубак дружбы», які нядаўна завяршыўся. Леанід Тараненка ў звышцяжкай катэгорыі ўстанавіў сусветны рэкорд — 467,5 кілаграма.

Яшчэ некалькі міжнародных спаборніцтваў прайшлі з удзелам беларускіх спартсменаў. Так, у матчавай сустрэчы па лёгкаатлетычнаму мнагабор'ю паміж камандамі СССР і ГДР вызначылася мінчанка Святлана Бурага, якая стала пераможцай.

Амаль адначасова праходзіў міжнародны турнір гандбалістак з удзелам шасці краін у ГДР. Перамога дасталася гаспадыням, якія ў рашаючым матчы выйгралі ў зборнай СССР. За каманду нашай краіны выступалі і мінчанкі Святлана Жыхарава, Раіса Баранава, Наталля Барысевіч і Таццяна Ерамінок.

У заключэнне цікавы факт. Алімпійскага чэмпіёна, чэмпіёна свету, Еўропы і СССР па скачках у ваду Уладзіміра Алейніка прадстаўляць не трэба. І вось спартсмен памяняў амплуа. Цяпер ён стаў мацнейшым у розыгрышы Кубка краіны па... фрыстайлу. Уладзімір Алейнік узначаліць нашу каманду.



**На чэмпіянаце Савецкага Саюза па шахматах (вышэйшая ліга), які праходзіць у рэспубліканскім Палацы шахмат і шашак, разыгрываюцца і чатыры пуцёўкі на занальны турнір першынства свету. Сярод магчымых прэтэндэнтаў называюць і беларускага гросмайстра Віктара Купрэйчыка, які неаднаразова быў пераможцам буйных міжнародных турніраў.**

**НА ЗДЫМКУ: Віктар КУПРЭЙЧЫК праводзіць занятні з юнымі мінскімі шахматыстамі.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

*РОДНАЕ—БЛІЗКАЕ*

# ЖЫВЫЯ [illegible]РОПЛІ ВЯСНЫ

У сонечны сакавіцкі дзень блакітныя цені на асляпляльна-белым снезе лёгка перакрэсліваюць усё, што трапляецца на іх шляху: сцяжынку, дарогу, плот. Ад хат упалі шырокія прамавугольныя цені, а зойдзеш у пакой — і аслепнеш на імгненне пасля яркай бялюткасці снегу.

Толькі ў сакавіку бывае такое празрыстае, крохкае паветра. Ім лёгка дыхаецца... Вясна настойваецца на паху вільгаці, набухлых пупышак, абуджанай зямлі...

Першы вясенні месяц ламае зіму паступова, але ўпэўнена. Ей вынесены канчатковы і бязлітасны прыгавор. Яго падпісалі і вясёлыя капяжы, і коцікі вярбы, і гучны трэск сарок, і сінічка, якая адчула ў вільготным паветры блізкую вясну і звонкім цвеньканнем вітае яе, і абуджаны клён у лесе, які ў адну з апошніх адліг першым ажыў і скінуў доўгае зімовае здранцвенне. Недзе ў стрыжані яго ствала яшчэ захаваўся марозны холад. Але толькі адчуў клён лёгкі подых цяпла, як галінкі паслалі сігнал у стылую зямлю, і карані пачалі пампаваць з яе нетраў салодкі сок.

...Мы з бацькам крочым у лес. Нам не цярпіцца паспрабаваць кляновага соку. Я нясу бляшанку, за пояс — сякера. Пад нагамі хлюпае снегавая каша. Хутка прыйшлося збочыць з дарогі, ісці напрасткі да лесу па гл[illegible] снезе, некрануты[illegible] маль сухім, быццам буйназярністая соль, зляжалым і пачарнелым.

Спыніліся каля стромкага маладога клёна. Вытапталі снег вакол. Бацька асцярожна, каб залішне не пашкодзіць дрэва, зрабіў невялікі, вузкі і касы надсек на ствале, убіў клін. І вось паціху, нясмела зверху кліна збіраецца буйная кропля. Яна набракае, расце і разам з церухой, кавалачкамі дрэва і кары падае ўніз, звонка стукае ў дно бляшанкі. Сцяжынка пракладзена, і ўжо збіраецца другая кропля, гатовая сарвацца з кліна, а там набірае вагу трэцяя, яе даганяе яшчэ адна... Ідзе кляновы сок! Значыць вясна!..

Хочацца схапіць кроплю губамі, калі яна вісіць, нібы не адважваючыся ўпасці, буйная і чыстая, як сляза, і ў ёй адлюстроўваецца лес, увесь свет... Даўка-салодкая, свежая і духмяная, яна толькі раздражняе — глытаць няма чаго. Тады, каб даць час сабрацца хоць глытку соку, мы ідзём у глыбіню лесу. Снег лёгка рассыпаецца пад нагамі. На чыстым небе выразна бачны цёмныя галіны дрэў. З паўднёвага боку каля ствалоў чарнеюць праталіны. Мінулагодняе лісце, спрасаванае пад цяжарам снегу, рудая пажухлая трава, а каля арэшніку зелянеюць на снезе расліны! Птушка, відаць, сойка, разграбала снег, шукала арэхі, і трава, якая і пад снегам захавалася зялёнай, аказалася зверху.

Зацвіў арэшнік. Доўгія хістка-крохкія каташкі, здаецца, бяссільна схіліліся долу, поўныя пыльцы. Цвіценне арэшніку не кідаецца ў вочы, быццам і не падыходзіць да яго слова «зацвітае». Кранеш галінку — і ў паветры павісне светлы дымок...

На чорных ствалах вольхі, нібы нажом, прарэзаныя ўздоўж доўгія барозны. Гэта лось ласаваўся горкай карой.

Вярнуліся да клёна. На дне бляшанкі сабралася некалькі глыткоў соку. Бацька адпіў адзін, аддаў пасудзіну мне. «Пі, я не хачу... Халодны». Я падняў бляшанку, нахіліў — у свежай духмянай вільгаці плавалі кавалачкі кары, пацяруха, але я не стаў вылоўліваць іх. Сок здаваўся яшчэ смачнейшым. Непаўторны смак першага вясновага дару!..

**Васіль ФЕРАНЦ**

## ДЗЕЦІ МАЛЮЮЦЬ МІР

Першыя работы юных мастакоў Брэстчыны паступілі ў адрас журы міжнароднага дзіцячага конкурсу на лепшы малюнак аб савецка - польскай дружбе. Конкурс гэты незвычайны. Дзевятнаццаты раз праводзяць яго рэдакцыі брэсцкай абласной газеты «Заря» і Люблінскага ваяводства Польскай Народнай Рэспублікі, брэсцкі абласны савет прафесіянальных саюзаў, абласны камітэт абароны міру, праўленне абласной арганізацыі Саюза журналістаў БССР.

Сёлетні конкурс прысвечаны 70-годдзю Вялікага Кастрычніка.

У сваіх работах юныя мастакі — школьнікі 3—9 класаў — расказваюць аб тым, як яны жывуць і вучацца, адпачываюць, сябруюць з ветэранамі, як шануюць памяць аб загінуўшых барацьбітах за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы. Асноўная тэма — мір і дружба, сяброўства паміж народамі-суседзямі.

Узнагародай для 20 пераможцаў конкурсу, як і ў папярэднія гады, будзе паездка ў Польскую Народную Рэспубліку. Столькі ж юных мастакоў з Польшчы пабываюць у Брэсце.

**У. ЕРАМІНОК.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 443